**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 41 (809) 8 кастрычніка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Рамантычнае вяселле.



*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Разгледжана пытанне аб прымяненні амністыі ў дачыненні да 7.077 асуджаных, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі

**Паводле даных дэпартамента выканання пакаранняў МУС Беларусі на 2 кастрычніка разгледжана пытанне аб прымяненні закона аб амністыі ў дачыненні да 7.077 асуджаных, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі (усяго пад амністыю падпадае 7.737 чалавек).**

Начальнікамі папраўчых устаноў закрытага тыпу вынесены пастановы аб вызваленні ад далейшага адбывання пакарання 1.652 асуджаных, з якіх 25 – непаўналетнія. Прынята рашэнне аб скарачэнні тэрміну пакарання на адзін год у дачыненні да 1.826 чалавек. Адмоўлена ў прымяненні амністыі 3.599 пазбаўленым волі. Прычыны: наяўнасць іскаў, злосныя парушэнні парадку адбывання пакарання.

Падчас амністыі асобамі, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі, пакрыты ўрон больш як на 6 млрд. рублёў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

## Цэнтрвыбаркам акрэдытаваў 910 міжнародных назіральнікаў за прэзідэнцкімі выбарамі

**Цэнтрвыбаркам Беларусі, паводле звестак на 5 кастрычніка, акрэдытаваў 910 міжнародных назіральнікаў за прэзідэнцкімі выбарамі, якія адбудуцца 11 кастрычніка. Адпаведная інфармацыя размешчана на сайце ЦВК.**

344 назіральнікі прадстаўляюць БДІПЧ АБСЕ, 68 – ПА АБСЕ, дзевяць – Парламенцкую асамблею Савета Еўропы.

СНД прадстаўляюць 382 назіральнікі, у тым ліку 42 – Міжпарламенцкую асамблею СНД.

64 назіральнікі будуць прадстаўляць дыпламатычны корпус, сем – Шанхайскую арганізацыю супрацоўніцтва.

Цэнтрвыбаркам таксама акрэдытаваў міжнароднымі назіральнікамі 19 прадстаўнікоў цэнтральных камісій замежных краін. Яшчэ 17 міжнародных назіральнікаў значацца на сайце ЦВК як незалежныя.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

**Падача абвестак па тэлефоне № 166**





Глыбоцкі раён

# Былая слава не грэе

■ Станіслаў Раманчук.

**Рэаліі цяперашняга дынамічнага часу даволі суровыя, і ўчора яшчэ паспяховыя калектывы могуць апынуцца на мяжы выжывання.**

Удзельнікам чарговага пасяджэння аблвыканкама даволі дзіўна было даведацца, што ў лік сямі стратных у сістэме спажыўкааперацыі вобласці ўвайшло і Глыбоцкае райпо. У мінулым, калі гэты калектыў узначаліла ў 1972 годзе Галіна Стагурава, ён неўзабаве быў прызнаны лепшым на прасторах СССР. Глыбачане тады ўзвялі першы ў краіне кулінарны камбінат, будавалі ў вёсках новыя сельмагі, адкрывалі спецмагазіны, сталовыя, рэстаран. Потым у іх з’явілася свая цяпліца і, нават, свінаферма на 1200 галоў, а нарыхтоўчая кантора стала эталонам дзейнасці ў галіне. Пры наступным кіраўніку Ангеліне Жукавай райпо таксама квітнела, нават тэлефільм “Ціхае жыццё ў Глыбокім” быў зняты і атрымаў гран-пры на Усесаюзным кінафестывалі ў 1985 годзе. Аднак зараз гандаль на вёсцы і абслугоўванне яе нешматлікіх жыхароў аўталаўкамі прыносіць толькі вялізныя страты. У самім жа горадзе кааператарам з кожным годам усё цяжэй вытрымліваць вострую канкурэнцыю з прыватнымі гандлярамі і з такімі буйнымі гандлёвымі сеткамі, як “Еўраопт”. У выніку глыбачанам, як і іх калегам у Полацку, Оршы,Талачыне, Шуміліне, Браславе, Мёрах жыць і развівацца стала цяжка, востра не хапае абаротных сродкаў, прыходзіцца браць шмат банкаўскіх крэдытаў. На Глыбоччыне кааператыўны гандаль зараз займае толькі 17 % у агульных аб’ёмах тавараабароту і перад галіной паўстала перспектыва нават рэарганізацыі. Дарэчы, у трох раёнах вобласці ўжо ліквідавалі такія падобныя арганізацыі гандлю.

Пастаўскі раён

# І выбары –не панацэя

■ Чэслаў Якубовіч.

**Настолькі складаная зараз сітуацыя ў эканоміцы, што і перад прэзідэнцкімі выбарамі не ўдалося крыху стабілізаваць няпростую абстаноўку.**

Вось і ў Пастаўскім раёне за лічаныя дні да пачатку датэрміновага галасавання заставаліся праблемы з выплатай зарплаты ў асобных калектывах, найперш у вёсцы. Хоць сітуацыя тут, у адрозненне ад суседзяў, лепшая, мясцовы малзавод без затрымак разлічваецца за пастаўленае малако, аднак 5 гаспадарак мелі вялікія цяжкасці з разлікамі са сваімі працаўнікамі за працу ў жніўні. Дарэчы, столькі ж сельгаспрадпрыемстваў – Пастаўскі райаграсэрвіс, ААТ “Парыж-агра”, Вярэнькі-агра”, “Блакітныя азёры” і “Андроны” маюць настолькі крытычнае фінансавае становішча, што з’яўляюцца першымі кандыдатамі на магчымае банкротства і санацыю за вялізныя і непад’ёмныя даўгі. Нават перад выбарамі ў шэрагу гаспадарак заробкі людзям выплочвалі прадуктамі праз магазіны, а дырэктара адной з іх вызвалілі ад займаемай пасады за грубае парушэнне працоўнай дысцыпліны. У прамысловасці раёна вялікія цяжкасці перажываюць два прадпрыемствы з гарпасёлка Варапаева: дрэваапрацоўчы камбінат і завод жалезабетонных вырабаў, дзе таксама каторы месяц вялікія праблемы, дзе знайсці грошы і заплаціць сваім работнікам. Таксама ў завадчан не было сродкаў, каб разлічыцца з энерганаглядам за спажытую электраэнергію. Падобныя праблемы мае і абноўлены Пастаўскі льнозавод, які працуе са стратамі і дагэтуль не можа давесці да ладу закупленую ў Бельгіі няўдалую вытворчую лінію, а таксама новую кацельню з цеплапунктам.

Гарадоцкі раён

# Гушчар стаў забойцам

■ Кастусь Александровіч

**Пасля вельмі спякотнага жніўня восенню прайшлі дажджы, і людзі актыўна павалілі ў лясныя масівы, каб запасціся дарамі прыроды на прадстаячую зіму.**

На жаль, не ўсе з іх добра арыентуюцца ў лесе і часта грыбнікі з ягаднікамі губляюцца там, а здараецца і трапляюць у бяду. На працягу некалькіх дзён увогуле двое пажылых людзей загінулі на ўлонні прыроды. Напрыканцы тыдня раніцай у пятніцу вырашыла сабраць грыбоў і 75-гадовая пенсіянерка з вёскі Мехавое Гарадоцкага раёна. Пажылой жанчыне ў лесе грыбы траплялiся, і яна ўсё далей адыходзіла ў лясны гушчар. Аднак неўзабаве надвор’е пачало порціцца, захмарылася, прыкметна пацямнела, і пайшоў дождж. У такіх умовах і вопытны, спрактыкаваны грыбнік можа страціць арыентацыю на мясцовасці, а ў гэтай жанчыны былі яшчэ і праблемы са слыхам. На бяду, яна патрапіла на балоты і страціла апошнія сілы. Зніклую ў лесе актыўна шукалі трое сутак работнікі міліцыі, выратавальнікі МНС і аднавяскоўцы, але на чацвёрты дзень пошукаў знайшлі толькі мёртвае цела. Перад гэтым падобная бяда адбылася ў Расонскім раёне, дзе заблудзілася падчас збору ягад 71-гадовая старая і таксама загінула. На шчасце, яшчэ двое пенсіянераў у такіх эстрэмальных сітуацыях хоць і блукалі доўга па лясах, але змаглі самі адшукаць выйсце з лясной пасткі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 08.10.15 | | | | Пятніца 09.10.15 | | | | Субота 10.10.15 | | | | Нядзеля 11.10.15 | | | | Пан. 12.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +2 | +6 | +2 | +2 | +1 | +5 | 0 | +1 | +1 | +4 | +1 | +2 | +2 | +4 | +1 | +1 | +1 | +2 |
| Ціск | 756 | 757 | 755 | 754 | 754 | 754 | 753 | 753 | 752 | 753 | 752 | 751 | 751 | 752 | 750 | 750 | 750 | 752 | 752 |
| Вецер м/сек | 1 С | 1 С | 1 С | 2 С-В | 2 С-З | 3 С | 5 С | 4 С-З | 4 С-З | 4 С-З | 4 С-З | 3 С-З | 3 С-З | 3 С-З | 3 С | 2 С-З | 3 С | 3 С | 4 С-В |
| Вільготнасць | 93 | 93 | 49 | 68 | 81 | 86 | 56 | 85 | 89 | 87 | 62 | 77 | 87 | 89 | 71 | 89 | 89 | 89 | 83 |

# Аб самым надзённым

## ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ БЕЛАРУСАМ НЕ ВАРТА СПАДЗЯВАЦЦА НА ХУТКІ ВЫХАД З КРЫЗІСА

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Галоўнае, што цяпер трывожыць – вось гэта нявызначанасць, што рабіць у 2016 і наступных гадах, куды ісці Беларусі далей, паколькі наш асаблівы напрамак сацыяльна-эканамічнага развіцця (раней чым ганарыліся) сябе не апраўдаў.**

У адрозненне ад папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў, сёлетняя кампанія ў Беларусі праходзіць на фоне істотнага эканамічнага крызіса і ўзрослых жыццёвых цяжкасцей у большасці людзей. Раней такога яшчэ не было, каб з пачатку года ВУП краіны зменшыўся на 3,5%, а найбольшы спад вытворчасці назіраецца якраз у айчыннай прамысловасці. Да саміх жа выбараў інтарэс у насельніцтва невялікі, бо народ ведае, які будзе зноў іх канчатковы прадказальны вынік. Улады зараз непакоіць толькі яўка выбаршчыкаў на ўчасткі для галасавання і прымаюцца захады, каб папрасіць народ праявіць як мага болей грамадзянскую свядомасць, а таксама, каб гэтыя выбары нарэшце атрымалі міжнароднае прызнанне не толькі на прасторах СНД.

Даволі актыўна за ходам выбарчага працэсу працягліы час сочаць міжнародныя назіральнікі і эксперты розных узроўняў. Дарэчы, інфармацыі аб ходзе кампаніі хапае, хто хацеў, мог паглядзець па тэлебачанню альбо праслухаць па радыё выступленні кандыдатаў на вышэйшую пасаду ў дзяржаве. А вось галоўны фаварыт выбараў А. Лукашэнка ад такіх перадвыбарных выступленняў, удзелу ў дэбатах адмовіўся, як ён гэта рабіў і ў 2006, і 2010 гадах. Шкада, але зараз сур’ёзная дыскусія, сапраўдны маштабы штурм самых дасведчаных эканамістаў і спецыялістаў пра тое, як выправіць эканамічныя хібы і якога сацыяльна-палітычнагага курсу прытрымлівацца ў далейшым, патрэбны неадкладна.

Невыпадкова традыцыйны перад выбарамі Усебеларускі сход сёлета адмянілі, бо няма пра што рапартаваць, гэта пяцігодка аказалася праваленай поўнасцю па ўсіх параметрах. Гэта ж вам не жартачкі, што за некалькі тыдняў да па- сутнасці зноў выбараў без выбару (з-за слабых апанентаў у дзеючага беларускага лідара) па краіне каля паўтысячы прадпрыемстваў і арганізацый, найбольш у сельскай гаспадарцы, мелі даўгі ў суме звыш 330 мільярдаў рублёў перад сваімі працаўнікамі па зарплаце. Дапускаю, што такія запазычанасці за месяцы ліпень і жнівень дзякуючы адміністрацыйнаму рэсурсу на месцах у пачатку кастрычніка ўдалося пагасіць. Аднак, ніхто не дасць гарантый, што такія праблемы захаваюцца ў далейшым і будуць толькі ўзрастаць.

Сам жа кіраўнік Беларусі ўжо папярэдзіў сваіх выбаршчыкаў, што ў нас наперадзе, магчыма, яшчэ больш складаныя часы і дадаў, што яго не хвалююць беларусы, якія купляюць па 5 тэлевізараў. Між тым, сусветны крызіс неяк паркыху пачаў заканчвацца, праўда, за выключэннем Кітая, Расіі і яе партнёраў па Еўразійскаму саюзу. Для Беларусі цэны на энерганосьбіты ўвогуле зусім нізкія выходзяць, у параўнанні з суседзямі. Аднак незразумела, чаму ўсю гэту пяцігодку, пачынаючы з 2011 года цэны на той жа бензін для айчынных спажыўцоў павышаліся 24 разы і толькі аднойчы зніжаліся.

Галоўнае, што цяпер трывожыць – вось гэта нявызначанасць, што рабіць у 2016 і наступных гадах, куды ісці Беларусі далей, паколькі наш асаблівы напрамак сацыяльна-эканамічнага развіцця (раней чым ганарыліся) сябе не апраўдаў. Адзін толькі яскравы прыклад гэта пацвярджае. Калі на апошніх выбарах адзін долар каштаваў 3005 рублёў, заробкі давялі да быццам 500 USD у месяц, то цяпер пра гэта маўчаць, курс зялёненькага вырас у 6 разоў і практычна ў столькі разоў знізіўся наш жыццёвы ўзровень за апошнія пяць гадоў, калі бывала і шалёна раслі спажывецкія цэны, асабліва ў абвальным 2011 годзе.

Падстаў для аптымізму ў бліжэйшы час няма, бо і ў наступным годзе, хутчэй усяго, будуць падаць сусветныя цэны на нафту. Гэта ў сваю чаргу балюча б’е па нашаму асноўнаму гандлёваму партнёру Расіі, яна бяднее і ўсё меней набывае беларускіх тавараў. Пры гэтым, праўда, Крэмль не пакідае спроб прымусіць Беларусь прадаць па нізкаму кошту Мінскі завод колавых цягачоў, вельмі важны для расійскага ВПК. Дасведчаныя спецыялісты ведаюць, што на расійскіх прасторах пры ўмове пэўнай нармалізацыі сітуацыі на Данбасе невялікі эканамічны ўздым і рост на 2-3 % ВУП пачнецца не раней 2017 года напярэдадні наступных важных для У. Пуціна новых выбараў.

Вось на гэты прамежак часу павінны і беларусы арыентавацца, а пакуль нічога не застаецца, як усім жыць больш сціпла і рыхтавацца, што ў нас можа вырасці і беспрацоўе, і што будуць праблемы ў многіх вытворцаў. Невыпадкова ў суседняй Расіі сталі казаць пра павышэнне пенсійнага ўзросту. У нас пра гэта перад выбарамі не выказваюцца адкрыта, толькі міністр сацсферы сказала, пра неабходнае збліжэнне часу выхаду на адпачынак жанчынамі нароўні з мужчынамі. Хутчэй усяго, так і будзе, і ў Беларусі ўжо ў бліжэйшы час, а сам гэты працэс паскорыць, калі афіцыйная Масква пачне адпаведную рэформу сваёй пенсійнай сістэмы.

## Дзень за днём

**Расія паабяцала максімальна садзейнічаць уступленню Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. У беларускія суды паступілі на разгляд справы аб банкротстве ўжо 2334 прадпрыемстваў і арганізацый, з іх 58 - значных для эканомікі і сацсферы. З пачатку года амаль на 40 % вырасла колькасць стратных працоўных калектываў. Амаль 40 тысяч беларусаў па ініцыятыве адміністрацыі адправілі ў вымушаныя адпачынкі. Даўгі айчынных прадпрыемстваў за свет і цяпло дасягнулі 3 трлн. рублёў. Візавыя цэнтры па ўсёй краіне прыпынілі працу, а потым аднавілі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** Глава МЗС Л. Фабіус прапанаваў абмежаваць права вета пастаянным членам Савета Бяспекі ААН, ім найбольш злоўжывае Расія, за гэту прапанову выказаліся 73 краіны свету.

**Чэхія**. Услед за суседзямі Германіяй і Аўстрыяй урад краіны ўзмацніў пагранічны кантроль, каб спыніць паток нелегальных мігрантаў і бежанцаў з Афрыкі і Азіі.

**Англія.** Прэм'ер-міністр Д. Кемеран заявіў, што адзіны выхад вырашыць праблему з масавым наплывам мігрантаў – гэта пакончыць са шматгадовай вайной у Сірыі.

**Сірыя.** Глава МЗС Валід аль-Маулем пацвердзіў, што краіна можа папрасіць Расію накіраваць яе армію на дапамогу ўрадавым сірыйскім войскам.

**Польшча.** Міністэрства абароны дамовілася з калегамі са Швецыі аб паглыбленні ваеннага супрацоўніцтва з-за агрэсіі Расіі ва Украіне і актывізацыі войск РФ на Балтыцы.

**Украіна.** Краіна ўвяла новыя маштабныя санкцыі супраць амаль 400 грамадзян і больш 100 юрыдычных асоб Расіі за іх дачыненне да анексіі Крыма і агрэсіі ў Данбасе.

**ЗША.** Эксперты разведвальнай кампаніі Stratfor заявілі, што Расія ні пры якіх умовах не выведзе сваіх "зялёных чалавечкаў" з Украіны і будзе любой цаной утрымліваць Данбас.

**Казахстан.** Многія абменныя пункты краіны зноў закрыліся, калі за адзін дзень курс нацвалюты абваліўся на 5 тэнге, за тры тыдні яна абрушылася болей чым на трэць.

**Афганістан.** Ноччу добра арганізаваныя баевікі руху "Талібан" узялі штурмам турму ля ўскраін горада Газні і вызвалілі адтуль больш 350 зняволеных ісламістаў.

**Буркіна-Фасо.** На пасяджэнні часовага ўрада ўласная ахова арыштавала прэзідэнта краіны і шэраг міністраў кабінета, ніякіх патрабаванняў перад выбарамі не выставілі.

**Украіна.** У цэнтры Данецка невядомы вывесіў украінскі сцяг, сярод прыезджых главароў "ДНР" ужо лёгкая паніка, што да зімы іх"зліюць" і зменіцца ўлада на ўкраінскую.

**Расія.** Толькі за публікацыю верша "Украінскім патрыётам" суд Арлоўскай вобласці пазбавіў на 2 гады працы настаўніка, аўтара А. Быўшага і канфіскаваў ягоны наўтбук.

**Германія.** На адкрыцці буйнога аўтасалона ў Франкфурце новы глава кампаніі BMW Харальд Кругер раптоўна страціў прытомнасць і ўпаў з падазрэннем на інсульт.

**Чылі.** Да мільёна чалавек прыйшлося эвакуіраваць з пацярпелых ад моцнага землятрусу і цунамі раёнаў краіны, яго штуршкі адчуваліся і ў суседняй Аргентыне.

**Расія.** Крэмль і надалей, як заявіла газета "Ведомости", не дапусціць у РФ канкурэнтных выбараў, будзе імкнуцца кантраляваць мазгі большасці расіян, зачышчаць нелаяльных.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Захад прадоўжыць курс на нармалізацыю адносін з Беларуссю, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, нават калі Крэмль націсне на нас і даб'ецца згоды на прыём авіябазы.

**Жодзіна.** Старшыня Свабоднага прафсаюза А. Бухвостаў заявіў, што ў пачатку 2016 года БелАЗ, МАЗ, агрэгатныя заводы Асіповіч, Барысава, Бабруйска і іншыя чакае калапс.

**Ашмяны.** Па гучнай справе аб карупцыі ў мясцовай мытні ўслед за першымі 19 затрыманымі пад варту ўзялі яшчэ 20 супрацоўнікаў мытнага паста "Каменны Лог".

**Гомель.** Напярэдадні выбараў поўнасцю спыніўся завод хімічных вырабаў, летам там працавалі па 10 дзён у месяц, работнікам раяць шукаць сабе новую працу.

**Барысаў.** З-за адмовы Расіі ад яго прадукцыі на заводзе "Аўтагідраўзмацняльнік" пройдуць масавыя скарачэнні да 700 працаўнікоў, звольняць таксама ўсіх пенсіянераў.

**Мінск.** Перад выбарамі, як заявіў эканаміст С. Чалы, на фоне поўнасцю праваленай пяцігодкі і 3-х крызісаў самае страшнае, што няма ва ўлады прапаноў, як выйсці з крызісу.

**Любань.** Новы калійны горна-абагачальны комплекс, сумесна з расійскай кампаніяй "Славкалій", дасць першую прадукцыю ў 2020 г., створаць каля 2 тысяч працоўных месц.

**Слуцк.** У кватэры шматдзетнай сям'і работнікі энергазбыту адключылі свет за невялікія даўгі і справакавалі пажар, у агні цудам не загінулі трое маленькіх дзяцей.

**Рэчыца.** Геолагі "Беларуснафты" на мясцовым радовішчы знайшлі новыя залежы нафты аб'ёмам да 700 тысяч тон, яе здабыча цяпер у Беларусі дасягае ў год 1,6 млн. тон.

**Капыль.** З санкцыі Мінскай абласной пракуратуры арыштавалі 48-гадовую супрацоўніцу абльвыканкама за атрыманне 5 млн. рублёў хабару падчас праверкі тут прыватнай фірмы.

**Воранава.** Райпракуратура распачала крымінальную справу супраць прадпрымальніка, які без дазволу выкапаў на сваім хутары сажалку, яго могуць нават пасадзіць на 5 год.

**Крупкі.** Вечарам на чыгуначным пераездзе Бобр-Слаўнае ўпала старое дрэва і пашкодзіла кантактную лінію электраперадач, рух 7 цягнікоў і электрычак затрымаўся на 50 хвілін.

**Брэст.** Суд пакараў 22-гадовага малодшага сяржанта 5,6 гадамі турмы, ён ударыў маладога радавога ў жывот, што прывяло да цяжкай траўмы – разрыву селязёнкі.

**Ваўкавыск**. На сметніку ля райцэнтра пасварыліся і пабіліся жанчыны-бамжыхі, пасля чаго муж адной з іх ударыў нажом у жывот 24-гадовую крыўдзіцельку яго суджанай.

**Мінск.** Глава беларускага хакею І. Рачкоўскі пацвердзіў, што федэрацыя пачала працу аб удзеле нашых клубаў у Еўрапейскай лізе і выхадзе іх з расійскага бізнас-праекта КХЛ.

# Прыватным медцэнтрам могуць дазволіць выдаваць бальнічныя




■ Наталля Заяц, Мінск-Навіны

**Прыватным медыцынскім цэнтрам цяпер могуць дазволіць выдаваць бальнічныя лісты.**

**Пра гэта паведаміў на пашыраным пасяджэнні грамадска-кансультацыйнага савета па развіцці прадпрымальніцтва і савета па развіцці прадпрымальніцтва пры Мінгарвыканкаме, старшыня савета заснавальнікаў СТАА «Экамедсэрвіс» Уладзімір Коява. На пасяджэнні абмяркоўвалася ўзаемадзеянне дзяржавы і бізнасу ў сацыяльнай сферы.**

- Наша прапанова, накіраваная ў Міністэрства аховы здароўя і Савет міністраў, атрымала станоўчы водгук. Да канца гэтага года гэтае пытанне будзе вырашана. І ўсе камерцыйныя арганізацыі аховы здароўя нароўні з дзяржаўнымі будуць выдаваць бальнічныя лісты, што ў значнай меры разгрузіць паліклінікі, - распавёў Коява.

Таксама ён выказаў некалькі прапаноў па развіцці добраахвотнага медыцынскага страхавання. Напрыклад, пра тое, каб перавесці прыкладна 20% пацыентаў ва пазабюджэтную платную ахову здароўя, гэта значыць, перадаць іх амбулаторныя карты ў прыватныя медцэнтры. Гаворка ідзе пра тых, хто можа і хоча абслугоўвацца выключна ў прыватных медыцынскіх цэнтрах.

У сваю чаргу, намеснік старшыні Мінгарвыканкама Андрэй Дамарацкі пагадзіўся з тым, што трэба развівацца і прыватнаму медыцынскаму абслугоўванню. Гэта адзін з кірункаў бюджэтазамяшчэння.

Гаворачы аб удзеле бізнасу ў сацыяльнай сферы, дырэктар Бізнассаюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў ім. праф. М. С. Куняўскага Жанна Тарасевіч адзначыла, што сёння ў Беларусі гэтая сфера - прэрагатыва дзяржавы. Хоць яно можа на конкурснай аснове аддаваць кіраванне бізнас-працэсамі ў прыватныя рукі. Напрыклад, у Германіі ўзровень паслуг, што аказваюцца сацыяльнай сферы бізнасам складае каля 70%, у Францыі - 50%. Жанна Тарасевіч прапанавала распрацаваць дарожную карту развіцця прадпрымальніцтва ў сацыяльнай сферы Мінска.

Таксама была закранутая тэма недахопу кадраў для бізнасу. Вырашыць гэтую праблему, як было агучана на пасяджэнні, можна шляхам перагляду кваліфікацыйных характарыстык і ўнясення карэкціровак у навучальныя планы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Гаспадаркі вобласці пачалі ўзводзіць 161 ферму, але рэальна могуць закончыць з іх толькі 6 сёлета, аднак недзе трэба адшукаць 20 мільярдаў рублёў, усюды – шмат праблем.

**Талачын.** На новай італьянскай лініі мясцовы кансервавы завод пачаў выпуск натуральных сокаў з ягад, груш і яблыкаў, аб'ёмы вытворчасці складуць да 6 млн. літраў у год.

**Лёзна.** Праверка Дзяржаўнага кантролю выявіла, што на мясцовым льнозаводзе спісалі незаконна 25 га пасеваў лёну, каб прыкрыць сваю безгаспадарчасць, грубыя парушэнні тэхналогіі.

**Верхнядзвінск.** З мэтай пошукаў новых рынкаў збыту мясцовы масласырзавод прадставіў сваю лепшую прадукцыю на II Форуме рэгіёнаў Расіі і Беларусі ў горадзе Сочы.

**Глыбокае.** На пасаду дырэктара мясцовай птушкафабрыкі аблвыканкам прызначыў Аляксандра Логінава і даручыў палепшыць структуру севазвароту, павялічыць выручку.

**Докшыцы.** Па праграме мадэрнізацыі на хлебазаводзе на новай зманціраванай лініі пачалі выпускаць смачны армянскі прэсны хлеб з мукі і вады "Лаваш", на яго добры попыт.

**Талачын.** Падчас абласных "Дажынак" у райцэнтры адкрылі ў ЦРБ новыя аддзяленні гемадыялізу і рэнтгенагляду, абноўленыя РДК, райбібліятэку і цэнтральную плошчу.

**Мёры.** Следчы камітэт выявіў крадзяжы на агульную суму 3 млрд. рублёў злачыннай групай з 9 службовых асоб мясцовага райпо, з іх 7 падазроных ужо арыштавалі.

**Шуміліна.** Пасля трох сутак пошукаў у лясных масівах міліцыя з ваеннымі 103 мабільнай брыгады адшукалі 77-гадовую пенсіянерку з пасёлка Обаль, якая там заблудзілася.

**Паставы.** На адным з дамоў райцэнтра з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар Героя Савецкага Саюза Льва Шчукіна, ён камандаваў калісьці 940 авіяпалком і там пражываў.

**Орша.** Следчыя выявілі больш 100 месцаў у горадзе, дзе двое жыхароў Шклова ва ўзросце 19 і 30 гадоў хавалі для кліентаў спайсы, якімі гандлявалі праз інтэрнэт, справа ў судзе.

**Мёры.** У райцэнтры зноў прайшоў абласны этап фестываля нацыянальных культур з удзелам пражываючых дыяспар з усіх куткоў вобласці і выстава іх нацыянальных страў.

**Браслаў.** Кіраўніцтва раёна ў радзільным аддзяленні ЦРБ павіншавала чэмпіёнку свету па мастацкай гімнастыцы А. Зварыку з нараджэннем трэцяга ў яе сям'і дзіцяці – сына.

**Ушачы.** У вёсцы Садкі сям'я мінчан купіла стары дом і ператварыла яго ў дагледжаную аграсядзібу з прыгожым міні-батанічным садам з рэдкімі раслінамі і кветкамі.

**Лёзна.** У вёсцы Чарніцы міліцыя з дапамогай службовага сабакі затрымалі ў лесе трох цыганак, якія перад гэтым абакралі пажылую пенсіянерку і спрабавалі там схавацца.

*Служба інфармацыі "ВГ"*.

Уладзімір Скрабатун

# У Мярэцкіх могуць закрыць лазню... Народ – супраць, хоча быць памытымі!

Да аўтара гэтых радкоў звярнуўся з просьбай Чэслаў Вайтэцкі, жыхар вёскі Мярэцкія, мясцовы актывіст, – наведаць сустрэчу жыхароў вёскі з прадстаўнікамі Глыбоцкай ЖКГ на прадмет закрыцця мясцовай лазні. Сустрэча мела быць адбыцца ля той самай вясковай лазні 1 кастрычніка, а 17-й гадзіне. Асноўная матывацыя для закрыцця лазні – прадпісанне Глыбоцкага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

Акрамя таго, як адзначаў спадар Вайтэцкі, кошт памыйкі ўзнялі з 35 тыс. рублёў да 45 тыс. рублёў, г.зн., на 10 тыс. рублёў даражэй, чым у горадзе. Аднак, з 4 чэрвеня лазню, нібыта, закрылі на рамонт, а рамонт так і не распачаўся.

Да вельмі гучнай сустрэчы – як меркавалася – заставалася гадзінаў пяць. І аўтар гэтых радкоў, абачліва, завітаў у Глыбоцкі РЦГЭ. Сустракаю галоўнага ўрача РЦГЭ спадара Станіслава Скіпара.

*– Першы раз чую, што РЦГЭ спрычыніліся да закрыцця лазні ў Мярэцкіх!*– здзіўляецца галоўрач. *– Мы не займаемся закрыццём лазняў. Мы можам толькі напісаць прадпісанне! У Ломашах закрылі лазню, але тое не было ініцыятывай уласна РЦГЭ, гэта – ініцыятыва ЖКГ.*

Галоўурач запрасіў у кабінет супрацоўніцу, якая прынесла тое самае "прадпісанне". Пры мне зачыталі: "Прадпісанне аб устараненні парушэнняў №65, п.4 ад 10.06.2015 г.

***Правесці касметычны рамонт у лазні в. Мярэцкія ў распранальні і мыечным памяшканні. Тэрмін выканання – 1.07.2015 г".***

*– Гэта значыць – пафарбаваць. Ніякай размовы ў прадпісанні наконт закрыцця лазні ў Мярэцкіх няма! Няма ніякай нагоды для закрыцця лазні! Дзіўна, што распаўсюджваецца версія наконт ініцыятывы РЦГЭ па закрыцці лазні, значыць, некаму гэта – выгадна.*

Падумалася – сапраўды, не будзе ніякай логікі, калі Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі будзе ініцыяваць закрыццё лазняў. Ужо сама назва ўстановы – Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі – пярэчыла б такім дзеянням!

Натуральна, у ЖКГ можа быць і свая абгрунтаваная матывацыя. Напрыклад, малая наведваемасць, з-за чаго эксплуатацыя – эканамічна не выгадная. А тут яшчэ трэба выдаткоўваць сродкі на касметычны рамонт.

Колькі жыву, столькі і здзіўляюся! Асабліва апошнія гады! Ну, што не вазьміся рабіць у нашай краіне – нявыгадна. Выгадна нічога не рабіць! Толькі пачытаеш загалоўкі навінаў – прыходзіш у шок.

"Беларусь павялічыла экспарт ківі ў Расію"! У нас ёсць плантацыі ківі? Не чуў!

"Беларусь павялічыла пастаўкі кавуноў і дыняў у Расію"! У нас ёсць калгасы, якія ў прамысловых маштабах вырошчваюць бахчавыя культуры? Не! Ёсць, натуральна, на Беларусі фермеры-энтузіясты, якія спрабуюць вырошчваць гэтыя культуры. Паспяваюць! Але ж вырошчваецца гэта не ў такіх аб'ёмах, каб можна было яшчэ і экспартаваць!

Экспартуе Беларусь у Расію, аказваецца, не толькі польскія яблыкі, але і экзатычныя бананы і папаю! Рыбу ласасёвых пародаў экспартуюць, і мора ў нас няма!

Сама наша краіна становіцца прадпрымальнікам! Купіў, дзе танна, прадаў у Расію. І "навар" ёсць!

Цяпер мы падыходзім да нечаканых высноваў – навошта тады нам калгасы і калгаснікі? Сады і фермы? Калі дзяржава можа існаваць па прынцыпу – купіўпрадаў. У нас не выгадна займацца вытворчасцю, бо стратна, а там, за мяжой – прыбыткова! А тут, гэтым калгаснікам, яшчэ трэба плаціць заробкі і пенсіі! За што? Вы ж кастарыканскую папаю не прадавалі! А яны яшчэ хочуць хадзіць чыстымі і ахайнымі! А грошай у іх няма! У дадатак – абураюцца, што лазню хочуць закрыць!

На сход у Мярэцкія над ЖКГ прыехалі: галоўны інжынер, юрыст і спецыяліст па зваротах грамадзян.

Як і чакалася, на сходзе жыхароў Мярэцкіх і прадстаўнікоў ЖКГ, адразу агучылі нагоду для закрыцця лазні – тое самае прадпісанне ЖКГ. Назвалі каштарыс рамонту – 11 млн.рублёў. Народ рэагаваў бурна і эмацыйна!

*– І што? 11 млн. рублёў на рамонт лазні не могуць знайсці!?*– абураюцца жанчыны *– Як сабе на катэджы і джыпы ў начальства грошы ёсць, а на лазню ў іх – няма!*

Аднак, у дадатак да гэтага, агучылі суму ў 7 млн. рублёў – рамонт каналізацыі, яшчэ трэба мяняць і плітку. А пра гэта ў прадпісанні РЦГЭ – ні слова!

Высвятляецца, што памыйка ў лазні і коштам у 45 тысяч рублёў, ужо – стратная. Рэальны кошт памыйкі – 66 тысяч рублёў. Калі "акругліць" – 70 тысяч рублёў.

*– Калі б у лазні мылася не 10 чалавек, а столькі – колькі прыйшло сёння на сход – не трэба было б падвышаць кошт!*– кажа прадстаўнік ЖКГ.

*– 70 тысяч рублёў?*– абураецца адзін з прысутных. *– Мне з чатырмя чалавекамі – 280 тысяч рублёў! Чаму мы мусім плаціць у два разы даражэй, чым у горадзе! У нас такіх грошай няма! Мы ў гэтай лазні – калі яна была калгасная і калгасам пабудаваная – мыліся бясплатна! І глыбоцкія прыязджалі мыцца! А ЖКГ "прыхватызаваў" лазню, цяпер хоча з нас "лупіць грошы"!*

Натуральна, у такім фармаце, сход не мог быць выніковым, г.зн бакі не прыйшлі да агульнага пагаднення, якое задаволіла б усе бакі спрэчкі. Патрэбны пэўны час, каб прыйсці да "кансэнсуса".

Народ пачаў разыходзіцца... Прыгразіўшы напрыканцы адправіць допісы са скаргамі вышэй, а мо й САМОМУ – самі ведаеце каму, таму – каго больш за ўсіх баяцца!

***

Між тым, на наступны дзень, у суботу, нечакана, высветлілася, – зацеплілі лазню ў Мярэцкіх. Праўда, мала хто аб гэтым ведаў...

Як паведаміў Чэслаў Вайтэцкі – паводле рашэння райвыканкама цягам месяца будзе праводзіцца маніторынг наведвання лазні, кошт памыйкі на чалавека пакуль – 45 тысяч рублёў. Праз месяц стане зразумела, ці прыйшлі бакі – ЖКГ і наведвальнікі лазні ў Мярэцкіх – да "кансэнсуса".


Жыхары Мярэцкіх чакаюць прадстаўнікоў ЖКГ з Глыбокага.


Дачакаліся прыезду ЖКГ. Усе ў лазню – на сход.


Усім прысутным на сходзе сказалі адзначыцца ў спісе.

Прэзідэнцкія выбары – 2015

# Таццяна Караткевіч: Калі вы выбераце мяне, я забяспечу вам і мір у доме, і ўпэўненае жыццё

**"Калі вы выбераце мяне, я забяспечу вам і мір у доме, і ўпэўненае жыццё, забяспечанае для нашых сем'яў", — заявіла кандыдат у прэзідэнты Таццяна Караткевіч 3 кастрычніка ў ходзе дэбатаў на Першым нацыянальным тэлеканале.**

"11 кастрычніка нам усім неабходна зрабіць вельмі важны выбар – або застацца на месцы, у лепшым выпадку, або зрабіць крок і ісці наперад. За апошні час у нашай краіне і ў нашай псіхалогіі змянілася шмат. Не змянілася толькі адно – улада. Яна па-ранейшаму засталася ў 90-х як у асобах, так і ў падыходах", – заявіла яна.



На думку Караткевіч, краіна перастала развівацца. "Яна сёння ў крызісе, – падкрэсліла Караткевіч. – Звярніце ўвагу – наш канкурэнт на гэтых выбарах Аляксандр Лукашэнка сёння праігнараваў гэтыя дэбаты. А гэта значыць, што ён не хоча размаўляць з вамі і са мной. Сёння ўлада нацэлена на тое, каб захаваць кантроль. Менавіта таму ў такім цяжкім становішчы МАЗ, у такіх цяжкіх становішчах МТЗ, "Белшына", "Гомсельмаш".

Караткевіч адзначыла, што гэта трэба змяніць, і яе каманда ведае, як гэта зрабіць. "Трэба спыніць падзенне эканомікі, забяспечыць рост і ў той жа час стварыць умовы, каб абараніць грамадзян у цяжкіх сітуацыях, – сказала Караткевіч. – Трэба сёння зняць пятлю з прыватнага сектара, правесці рэформы ў прамысловасці, даць больш сродкаў у сферы медыцыны і адукацыі, забяспечыць незалежныя суды і выбарнасць улады. Я ўпэўнена, што, калі мы будзем выбіраць мясцовую ўладу, а таксама вернемся да нормы, калі адзін чалавек не мае права займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны, гэта верне павагу да людзей і спыніць бязладдзе чыноўнікаў".

"Сёння Аляксандр Лукашэнка гаворыць аб тым, што калі ёсць мір у доме, то не важныя каштоўнасці і зарплаты. Можа быць, яму не, а нам так, – сказала Караткевіч. – Гэта нейкі дзіўны выбар паміж мірам і забяспечаным жыццём. Ні ў адной цывілізаванай краіне не ўлада не ставіць людзей перад такім выбарам. Калі вы выбераце мяне, я забяспечу вам і мір у доме, і ўпэўненае жыццё, забяспечанае для нашых сем'яў. 11 кастрычніка, калі ласка, зрабіце свой выбар, выберыце мяне і мірныя перамены".

*Таццяна Каравянкова, БелаПАН.*

# Як нараджалася фермерства

**Гэта не казка, тым больш, не мая выдумка, а рэальная падзея, якая адбывалася на тэрыторыі знікшых населеных пунктаў Бадзянкі, Мерзлякі, Піянерыя і Баркоўшына цяперашняга Мікалаеўскага сельсавета. Пачынаючы ад Бадзянкоў і аж да самай ракі Дзісны, у якую ўпадала рачулка Еленка, былі размешчаны сядзібы сямі родных братоў Якавіцкіх.**



**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог,*
*г. Дзісна*

У пана Якавіцкага, які жыў у Бадзянках яшчэ ў пару Першай сусветнай вайны, працаваў са сваёй сям'ёй нехта Казлоўскі парабкам. Як усякі нармальны чалавек ён марыў мець свой надзел зямлі, а не батрачыць на пана. Кажуць, што калі чаго вельмі захацелася, то можна гэта жаданне ажыццявіць.

У 1921 годзе па Рыжскаму мірнаму дагавору гэта тэрыторыя перайшла пад уласнасць панскай Польшчы, закон, які дазваляў мець асабістую зямлю. Казлоўскі, каб ажыццявіць сваю мару пачаў збіраць грошы, адмаўляючы сабе ў добрым адзенні, абутку і харчаванні. Калі была назбірана неабходная сума, ён, застаючыся парабкам, папрасіў у пана даць яму на запашку ўчастак зямлі. Запашка – гэта такое эканамічнае пагадненне, калі запашніку пан выдзяляе ўчастак зямлі, насенне, цяглавую сілу, г. зн. каня, неабходны інвентар. Восенню, калі ўраджай сабраны, то з гэтага ўраджаю пану вяртаецца насенны фонд, аплата за каня і інвентар, а астатняя частка ўраджаю дзеліцца ў той прапорцыі, якая была агаворана раней. Звычайна, 1:1, але маглі быць і іншыя варыянты. Гэты від пагаднення самы нязручны для запашніка, эканамічна мала выгадны.

Праз некалькі гадоў, калі Казлоўскі назбіраў больш грошай, то прапанаваў Якавіцкаму даць участак зямлі ў арэнду. Гэта ўжо іншая форма пагаднення, а менавіта, арандатару пан выдзяляе зямлю, за якую па дамове арандатар уносіць дамоўленую грашовую суму. Увесь атрыманы ўраджай дастаецца арандатару.

Асноўная культура, якую вырашчваў Казлоўскі – лён. Яна была самая працаёмкая, але і самая даходная. Калі пуд (16кг) пшаніцы каштаваў на рынку 2 злоты, то пуд льносемя – 12 злотых. Льновалакно каштавала яшчэ даражэй, яно ішло на экспарт.

Зарабіўшы неабходную суму грошай Казлоўскі выкупіў у Якавіцкага каля 50 гектараў зямлі. Праўда, большая частка гэта была няўдобіцы, які межаваліся з балотам Ельня, грунтавыя воды знаходзіліся блізка, а таму зямля была малаўраджайнай. Ён наняў спецыялістаў па копцы каналаў і пачаў займацца павярховым дрэнажом. Па сістэме розных каналаў адводзіць лішкі вады ў Еленку праз Васіленкоўскі ручай.

Як і раней, ён займаўся льнаводствам, яму былі патрэбны грошы для акультурвання ўжо купленай зямлі і ў планах пакупка новых участкаў. Мужчыны з навакольных вёсак, у т.л. і мой бацька, былі ім вельмі задаволены, бо ў яго можна было на апрацоўцы лёну зарабіць добрыя грошы. У аплаце ён не скупіўся, каб пераманіць у адказны перыяд уборкі працоўную сілу.

Сталі падрастаць тры яго сыны. Старэйшага Генрыха ён на два гады адправіў у Францыю ў нейкую будаўнічую школу. Хачу звярнуць увагу сучасных маладых людзей, не навучацца розным прыёмам крыўляння па праграме "я магу", а навучыцца будаўнічай прафесіі. Пасля вяртання з Францыі Генрых сабраў каманду маладых хлопцаў, і пачалі вырабляць будаўнічыя блокі з сумесі гліны з кастрой, падобныя па форме і памерах на сучасныя сілікатныя. З гэтых блокаў пачалося будаўніцтва гаспадарчага току з асеццю, для апрацоўкі зерневых, а галоўным чынам, лёну. Асеці, пабудаваныя з бярвення, дастаткова часта пры сушцы ў іх трасты гарэлі. А асець з глінабітных блокаў была практычна незгараемай. У ёй магла згарэць толькі траста. Так жа былі пабудаваныя дом і гаспадарчыя пабудовы.

Зараз ужо сам Казлоўскі трымаў парабка. Але па словах яго сына, з якім мне ў свой час давялося весці гутарку, нармальна аплочваў працу, адносіўся як да роўнага, па-чалавечы.

Пры патрэбным падыходзе да зямлі, калі нават раней яна была няўдобіцай, бо ў гэтай мясцовасці ўсе населеныя хутары і вёсачкі Узгарэліца, Чарналессе, Лякова, Баркоўшчына, Мерзлякі, Камароўка, Куты, Рыбак і Васілёнкі ў свой час, г. зн. згодна апісваемаму часу год 50-60 назад, выраслі на месцы лесу, так званай Стэфанпольеўскай калоніі, пасля высечкі лесу і наступнай раскарчоўкі ляды, г. зн. высечак. Калі можна так назваць, фермерская гаспадарка Казлоўскага квітнела. Гаспадарка пана Якавіцкага ішла ў заняпад, была ў банкаўскіх даўгах. І каб не падзеі 1939 года, справа ішла да таго, што Казлоўскі поўнасцю завaлодаў бы маёмасцю Якавіцкага. Бо гэта быў свайго роду прагрэс. Зямля пераходзіла ў рукі спраўнага чалавека і давала прыбытак па максімуму. Але…

Пасля 17 верасня 1939 года куды падзеліся Якавіцкія не ведаю, не цікавіўся. А вось у лістападзе ці снежні падагналі ноччу каня, запрэжанага ў сані, гадзіну або дзве на зборы, потым Дзісна, Боркавічы, таварняк, які даставіў "эксплуататара" са сваёй сям'ёй у Архангельскую вобласць.

Ну, а зямля? Яна засталася на сваім месцы. Часткова зарасла кустамі і хмызняком, павялічыўшы плошчу балота Ельня, часткова, як непладародная, зайцы не могуць унесці дастатковую колькасць арганікі, знаходзіцца пад выпасам.

Вось такая сумная гісторыя аднаго з родных мне куткоў, дзе нарадзіўся, рос, пасвіў карову, а потым у якасці брыгадзіра вырошчваў зерневыя. Магчымасці, якія дае нам прырода для арганізацыі жыццёвага працэсу, мы, дзякуючы сваёй недальназоркасці, безгаспадарчасці, ляноты і многіх іншых прычын не здольны атрымаць у поўным аб'ёме. Але гэта асобная тэма.

Жыццё не церпіць бяздзейнасці, яно карае кожнага, хто парушае яе законы. А задавальненне ад розных шоў тыпу "Я магу", "Хачу ў тэлевізар" і г.д., якія маральна разбэшчваюць чалавека, адвучваюць яго ад працоўнай дзейнасці і настройваюць на вольнае правядзенне часу, накіроўвае наш рух у пытанні цывілізацыі ў супрацьлеглы бок, сэнс якой у задавальненні патрэбнасцяў цела, а не чалавечай душы, г. зн. руху ў бок жывёльнага жыцця, дзе галоўны не розум, а інстынкты захавання жыцця. Вынік адзін – дэградацыя і смерць.

Хочацца верыць, што знойдзецца разумны індывід, або цэлая арганізацыя, якая кіне кліч і пакажа асабісты прыклад у арганізацыі шоў: "Хачу на ферму". Добра, каб гэтым занялася БРСМ.



Высяленне ў паўночныя раёны.



Перавозка перасяленцаў.

# Вёсцы вярнулі першапачатковую назву

**Вёска Хрыстова, што ў Пастаўскім раёне, доўгі час значылася на дарожным указальніку як Хрыстава. Зараз назва на знаку напісана правільна.**

■ **Зміцер Лупач**

І калі большасці жыхароў гэта было, як кажуць, па любому – напісала начальства, значыць, яму відней, то некаторыя жыхары некалькі разоў звярталіся да мясцовых уладаў, каб выправіць памылку ў назве вёскі. І кожны раз атрымоўвалі адказ, што няма на гэта грошай, што гэта невялікая праблема, і гэты знак нікому не перашкаджае.

Але вось нядаўна праблема вырашылася, і зараз на шашы Полацк – Вільня стаіць правільны знак. Як паведаміў жыхар вёскі Хрыстова Люцыян Шчасны, адбылося гэта так. Нядаўна адзін з жыхароў вёскі рамантаваў аўто нейкага высокага пастаўскага начальніка. А ў якасці платы папрасіў паставіць знак з правільным надпісам. І праблема адразу вырашылася: на знаку замалявалі літару А і напісалі О. І ўсё рашэнне пытання!

Дык няўжо гэта нельга было зрабіць раней? А то атрымалася праблема на пустым месцы.

Ну, а нам застаецца толькі парадавацца за жыхароў Хрыстова, якія вярнулі сваю гістарычную назву на дарожным знаку.





Так знак выглядаў раней...





... а так выглядае зараз.

# Работнік міліцыі і егер займаліся незаконным паляваннем



**Падчас затрымання.** *Здымак з сайта інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету*

**Паляванне - адно з самых старажытных і любімых захапленняў людзей. У старажытныя часы людзі палявалі, каб здабыць сабе пражытак, але з цягам часу паляванне паступова змяняецца.**

■ **В.Е. Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і раслінная свету*

Шмат хто з паляўнічых разглядае паляванне не як падставу здабычы дзікага звера, а хутчэй як спаборніцтва, хто каго перахітрыць, адрэналін б'е праз край. Такім паляўнічым трэба не мяса, а сапраўдны трафей.

На жаль, супрацоўнікі міжраённай інспекцыі яшчэ часта сустракаюцца і з адкрытым браканьерствам, да таго ж учыняецца яно людзьмі, якія маюць пэўныя службовыя паўнамоцтвы, надзеленыя ўладай. Здавалася б, такія людзі павінны быць прыкладам для іншых паляўнічых і грамадзян, а не.

Так, у ноч на 29 верасня 2015 года ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю паступіў сігнал ад грамадзян аб тым, што ў раёне в. Свілы Шаркоўшчынскага раёна праводзіцца незаконнае паляванне з удзелам работніка міліцыі і егера ГПУ НП «Браслаўскія азёры». Рэйдавая група міжраённай інспекцыі сумесна з супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС неадкладна выехала ў паказаны раён, на дапамогу прыехалі і інспектары Браслаўскай міжраённай інспекцыі. Каля 1 гадзіны ночы супрацоўнікі інспекцыі і міліцыі паспрабавалі спыніць аўтамашыну «Ніва», якая рухалася на хуткасці, без святла, але вадзіцель праігнараваў патрабаванні аб прыпынку, ледзь не збіўшы работніка міліцыі, і спрабаваў схавацца. Пераслед «Нівы» працягваўся каля 30 хвілін, парушальнікі спрабавалі адысці ад інспектараў па бездарожжы, спадзеючыся, што ў іх новы аўтамабіль, з добрай праходнасцю, але і інспектары былі на новым аўтамабілі. У спрэчцы двух аўтамабіляў расійскага аўтапрама, перамог наймацнейшы, УАЗ інспектараў.

Падчас затрымання, парушальнікі яшчэ аказалі і непадпарадкаванне інспектарам і работніку міліцыі, але кайданкі астудзілі запал браканьераў, затрыманымі аказаліся работнік міліцыі і егер нацыянальнага парку. У багажніку «Нівы» інспектары выявілі тушу дзіка, дазвольныя дакументы на законнасць здабычы жывёлы адсутнічалі. На пытанне да вадзіцеля «Нівы», ён жа работнік міліцыі, чаму не спыніўся на патрабаванні міліцыі і інспекцыі, адказаў, што спалохаўся міліцыі. Вось такая байка, следчыя органы дадуць ацэнку дзеянняў, як егера, так і работніка міліцыі, спадзяёмся, што былога.

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі выказваюць вялікую ўдзячнасць грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

**Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-28670 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# У Удзеле адзначылі ўспамін святога Францішка

**Успамін гэтага святога адзначаецца 4 кастрычніка ў памяць таго, што ў гэты дзень у 1226 годзе святы Францішак Асізкі памёр.**

■ **Зміцер Лупач**

Францішак Асізкі заснаваў у свой час манашскі ордэн, які называецца па яго імені францішканскім. Прадстаўнікі гэтага ордэна айцы Яраслаў, Вальдэмар і Ян ужо шмат гадоў працуюць у Удзеле. Дзякуючы іх працы і ахвяраванням вернікаў удалося адрадзіць касцёл, які доўгі час стаяў закінуты, зрабіць прыгожай прыкасцельную тэрыторыю, пры касцёле стаіць помнік ненароджаным дзецям, дзейнічае ўнікальная батлейка, тут захоўваюцца ўнікальныя старадрукі. Усяго і не пералічыш...

І вось у гэтым годзе манахі-францішкане вырашылі адрадзіць у Беларусі абрад асвячэння жывёлаў. Гэты абрад праводзіцца ўжо ў шматлікіх краінах свету, у тым ліку, у суседняй Польшчы. Справа ў тым, што на Міжнародным кангрэсе прыхільнікаў руху ў абарону прыроды, які праходзіў у Італіі ў 1931 годзе, было вырашана адзначаць Сусветны дзень абароны жывёл 4 кастрычніка. Гэты дзень выбралі не выпадкова, а таму, што святы Францішак лічыўся нябесным заступнікам усіх жывёл.

У Беларусі абрад пасвячэння жывёл яшчэ мала вядомы. Як паведаміў пробашч парафіі ў вёсцы Удзела, што на Глыбоччыне, айцец Яраслаў, гэта абрад праводзіўся хіба ўпершыню ў Беларусі, а на Віцебшчыне дакладна ўпершыню. Таму вернікі да гэтага яшчэ не былі гатовыя. У гэты дзень жадаючых асвяціць сваіх чацвёраногіх сяброў было няшмат. Але францішкане спадзяюцца, што з цягам часу гэта стане добрай традыцыяй у Беларусі, у тым ліку, дзякуючы прыцягненню ўвагі да праблем аховы жывёл у сродках масавай інфармацыі.



# У Дунілавічах святкавалі двайны юбілей

**У гэтым годзе споўнілася 515 гадоў узнікнення першай каталіцкай парафіі ў мястэчку і 245 гадоў ад будаўніцтва сучаснага храма.**

■ **Зміцер Лупач**

Мураваны касцёл быў пабудаваны манахамі-дамініканамі, якія мелі тут свой кляштар. Пасля таго, як манахі падтрымалі антырасійскае паўстанне ў XIX стагоддзі, царскі ўрад забараніў дамініканам знаходзіцца ў Дунілавічах, а сам храм быў у 1866 годзе перададзены праваслаўнай царкве.

У 1919 годзе польскія ўлады вярнулі святыню католікам, яна дзейнічала да 1948 года. У гэтым годзе новыя камуністычныя ўлады забралі будынак касцёла пад зернесховішча, а ксяндза рэпрэсавалі.

Пасля будаўніцтва ў калгасе новага будынка для захоўвання збожжа, касцёл наогул пуставаў, у яго пацёк дах. і будынак стаў разбурацца.

Такая сітуацыя праіснавала да 1989 года, калі будынак касцёла нарэшце быў вернуты парафіянам. За гэтыя гады ўнутры храма быў праведзены рамонт, зараз заканчваецца рамонт са знешняга боку, добраўпарадкваецца тэрыторыя, святыня рыхтуецца дастойна сустрэць свой 250-гадовы юбілей.



З нагоды святкавання юбілею ў Дзень святога Міхала Арханёла, які лічыцца патронам Дунілавіцкай парафіі і адзначаецца 29 верасня, адбыўся фэст. На яго прыбылі святары суседніх парафій, а таксама дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. Ён і ўзначаліў урачыстую Імшу. Нягледзячы на тое, што святкаванне адбывалася ў працоўны дзень, на яго сабралася больш за тры сотні вернікаў.

Трэба сказаць, што фэст на святога Міхала Арханёла праводзіцца тут штогод. Як адзначыў пробашч парафіі ксёндз Павел Самсонаў, нават у савецкія часы, калі касцёл быў закрыты, 29 верасня вернікі збіраліся ля храма, каб памаліцца да святога.

Дарэчы, у Дунілавічах знаходзіцца абраз Маці Божай Ларэтанскай, які лічыцца цудадзейным. Ён напісаны ў 1667 годзе. Калі касцёл зачынялі, вернікі выкралі абраз праз акно і захоўвалі на гарышчы вясковай хаты. Калі касцёл аднавілі, абраз вярнуўся на сваё ранейшае месца. Зараз аднаўляецца культ пакланення гэтаму абразу.

Хочацца выказаць надзею, што наступныя гады і стагоддзі храм будзе мець лепшы лёс, і яго больш не забяруць у вернікаў.

